**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 49 (922) 7 снежня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**У Шаркоўшчыне абасадар Ізраіля ўручыў узнагароды прадстаўнікам пяці сем'яў — нашчадкам Праведнікаў народаў свету.** На здымку (справа): Марыя Іванаўна Чарняўская (дачка Івана Чарняўскага) і Радзіслаў Паўлавіч Чарняўскі (сын Паўла Чарняўскага) атрымалі ўзнагароду. *Фота klich.by*



**Падпіска – 2018.** Індэксы выдання: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 67 кап.; ведамасная – 636682 , кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 39 кап.

ISSN 2077-8023



Віцебская вобласць

# По адпрацаваным сцэнарыі

■ Станіслаў Раманчук

**Пад канец года стартавала чарговая выбарчая кампанія, якая мала цікавіць насельніцтва і да таго ж праходзіць прадказальна.**

Як і чакалася, ужо на адным з першых этапаў нелаяльных прадстаўнікоў апазіцыйных сіл і рухаў не ўключылі ў выбарчыя камісіі. Услед за іншымі рэгіёнамі Беларусі ў склад Віцебскай абласной выбарчай камісі па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў 28-га склікання ўключылі максімальную колькасць - 13 чалавек. На іх долю прыйдзецца апрацоўваць пратаколы з месцаў, з ніжэй стаячых камісій і потым абвяшчаць вынікі галасавання. На ўключэнне ў гэту камісію паступіла 18 заявак, але пасля сумеснага пасяджэння прэзідыума аблсавета дэпутатаў і аблвыканкама і персанальнага галасавання па кожнай з кандыдатур адабралі надзейных і праверанных. Няцяжка здагадацца, што членамі камісіі сталі найперш актывісты такіх праўладных грамадскіх аб'яднанняў, як "Белая Русь" і БРСМ. Зразумела, што туды прайшлі і "правільныя" таварышы з Камуністычнай партыі Беларусі, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, з дзяржаўных парфсаюзаў, ветэранскай арганізацыі. Такія людзі з адпаведнымі поглядамі становяцца прафесіяналамі, для іх Цэнтрвыбаркам рэгулярна праводзіць перадвыбарныя трэнінгі. Іншая справа, што не толькі ў Віцебску, але і ў сталіцы, Брэсце, Магілёве, іншых месцах прадстаўнікоў апазіцыі ў падобныя камісіі не ўключылі. Дзеючае заканадаўства аб выбарах дазваляе заўсёды адсейваць, як бачна, "чужых" і праводзіць палітычныя электаральныя кампаніі з прадказальнымі вынікамі, бо на гэтых мясцовых выбарах няма і парога яўкі.

Глыбоцкі раён

# На поўны цыкл перапрацоўкі

■ Чэслаў Якубовіч.

**У любой краіне ўпэўнена сябе адчувае той вытворца, які пастаянна абнаўляе абсталяванне і рэалізуе сваю прадукцыю на сваім і замежных рынках збыту.**

У ліку такіх працуе адзін з флагманаў айчыннай малочнай галіны, Глыбоцкі МКК. За дасягненне высокіх паказчыкаў развіцця імя калектыву было занесена на Рэспубліканскую Дошку гонару. Глыбачане зараз завяршаюць чарговы этап мадэрнізацыі і тэхнічнага пераўзбраення. Яшчэ летам камбінат запусціў у эксплуатацыю новы мадэрнізаваны цэх па вытворчасці сухой дэмінералізаванай сыраваткі і сухіх малочных прадуктаў. Зараз завяршаюць мантаж другой лініі, а затраты на іх перавысілі 40 млн. рублёў. Гэты аб'ект уключае і дабудову складскіх памяшканняў для цэха, які аснашчаны сучасным абсталяваннем. Новая прадукцыя МКК будзе запатрабавана ў айчыннай харчовай прамысловасці, для вытворчасці дзіцячага харчавання. Як плануецца, у наступным годзе цэх выйдзе на поўную магутнасць, стане перапрацоўваць сыватку з усіх малзаводаў Прыдзвіння. Глыбачане выйдуць фактычна на безадходную вытворчасць, на поўны цыкл перапрацоўкі. Апошнім часам МКК за замежныя рынкі адгружае ўжо каля 60 % выпускаемай прадукцыі, а яго візітоўкай сталі згушчонкі ў розных відах тары. У мясцовых перапрацоўшчыкаў растуць аб'ёмы прадаж у Расіі, запрацавала гандлёвае прадстаўніцтва і ў Казахстане. Спрабуюць глыбачане выйсці і на арабскія рынкі, правялі сёлета свае выставы ў Дубаі і Каіры, спажыўцам у ААЭ ўжо паставілі смачную прадукцыю.

Полацкі раён

# Навошта распускаць рукі?

■ Кастусь Александровіч

**Уяўленне аб беларусах, як аб памяркоўных і даволі спакойных людзях апошнім часам мяняецца ў горшы бок.**

Вось і ў Наваполацку набылі днямі значны грамадскі рэзананс два дзіўныя выпадкі з удзелам мясцовых жыхароў. Супрацоўніца 53-гадовай гараджанкі распачалі ўвогуле нават крымінальную справу за занадта бурны тэмперамент. У той вечар яна ехала на падпітку на гарадскім аўтобусе і пачалася праверка праязных дакументаў. У аднаго з пасажыраў білета не аказалася, а кантралёр стала патрабаваць заплаціць штраф. У гэты канфлікт умяшалася падпітая жанчына і стала рашуча абараняць свайго родзіча. Размовы пачаліся на павышаных танах і прадстаўніцы аўтапарка нічога не засталося, як выклікаць на дапамогу міліцыю. Прыезд да аўтобуса людзей у форме яшчэ болей раз'юшыў агрэсіўную навапалачанку. У прыступе эмоцый яна са злосці ўдарыла жанчыну-кантралёра кулаком у твар, за што цяпер пойдзе пад суд. Услед за гэтым здарэннем у адной з мясцовых сем'яў адбылася сапраўдная драма. Са службовай камандзіроўкі вярнуўся дамоў 33-гадовы муж і моцна разлаваўся, што яго суджаная сустрэла яго ў нецвярозым стане. Успыхнула паміж імі гарачая спрэчка, у ходзе якой малады мужчына збіў сваю жонку, у тым ліку і нагамі. Крыху пазней ён пайшоў з дому, а вярнуўся назад праз паўсутак таксама ўжо на моцным падпітку. Паміж блізкімі людзьмі прадоўжылася ранейшае высвятленне адносін. Дэбашыра было не спыніць, і ён зноў прадоўжыў бойку: нанёс жанчыне 15 цяжкіх удараў. Разам з машынай "хуткай дапамогі" на месца інцыдэнту прыбыла міліцыя і затрымала мужчыну. Пацярпелая атрымала вельмі цяжкія траўмы, засталася інвалідам, а муж-злачынца можа атрымаць турэмны тэрмін ад 5 да 15 гадоў.

# Аб самым надзённым

## ДА 1МАЯ ЎСІХ ЖАДАЮЧЫХ БЫЦЦАМ БЫ ПРАЦАЎЛАДКАВАЛІ, АЛЕ ПАЎМІЛЬЁНА БЕЛАРУСАЎ У РЭГІЁНАХ ПА-РАНЕЙШАМУ БЕЗ ПРАЦЫ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Іншая справа, што яшчэ 2-3 наступныя гады Беларусь можа трымацца на ранейшым патэнцыяле, але нізкі эканамічны рост ВУП да 2 % у год прывядзе беларусаў да далейшага адставання па ўзроўні жыцця. Ад такой перспектывы ўжо пачынаюць збягаць самыя энергічныя і разумныя беларусы, яны сталі выязджаць за мяжу, там знаходзяць больш высокааплатную, чым 300-400 долараў у месяц, работу.**

Напрыканцы каляндарнай восені сёлета статус Беларусі, як міратворцы па вырашэнні супрацьстаяння ў Данбасе, сур'ёзна патускнеў. Хоць перад гэтым наша знешнепалітычнае ведамства аб'явіла аб гатоўнасці направіць ва Украіну нават адпаведныя сілы, але выбухнуў гучны ўзаемны шпіёнскі скандал. Дайшло нават да высылкі беларускага дыпламата з Кіева, а ў гэтай справакаванай знешнімі сіламі гісторыі ў выйгрышы апынулася найперш расійская ФСБ. Адначасова беларускі лідар на чарговы саміт "Усходняга партнёрства" ЕС у Брусель не паехаў, што толькі засведчыла пра слабы ўзровень узаемных адносін. У дадатак яшчэ ЗША ўвялі антыдэмпінгавыя пошліны на сталь з Беларусі і яшчэ дзвюх краін, якую мы прадавалі за акіян па нізкіх цэнах.

Тым часам А. Лукашэнка ў Мінску правёў чарговую важную нараду па сітуацыі ў айчыннай эканоміцы і аб прадстаячых задачах сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны ў 2018 годзе. Ураду было дадучана канчатковы варыянт праекта дзяржаўнага бюджэту будучага года прадставіць да 20 снежня з пажаданнем знайсці сродкі для падтрымкі малааплатных слаёў насельніцтва. Главе дзяржавы прыйшлося самакрытычна прызнаць, што з выкананнем яго даручэння аб сярэдняй зарплаце ў тысячу рублёў шмат пытанняў і праблем. Хоць цяпер беларуская эканоміка пачала паказваць невялікі рост, але вось незадача: у Беларусі сур'ёзная бяда з беспрацоўем.

Не хто іншы, а сама глава Адміністрацыі прэзідэнта Н. Качанава на тым пасяджэнні заявіла, што абстаноўка ў рэгіёнах трывожная, бо там для многіх людзей проста няма працы. Як прыклад, называўся Столін, а яшчэ за граніцу паехалі працаваць ужо каля 100 тысяч суайчыннікаў. Вось парадокс, з аднаго боку хвалімся, што ў Беларусі ледзь не самае невялікае беспрацоўе ў свеце, меней 1 % па афіцыйнай статыстыцы. Аднак Качанава, спасылаючыся на дадзеныя аблвыканкамаў, назвала іншую лічбу, яшчэ каля 500 тысяч чалавек з'яўляюцца беспрацоўнымі, што прыйшлося ўлічваць пры дапрацоўцы новай канцэпцыі Дэкрэта № 3.

Сапраўды, гэта сур'ёзная сацыяльная праблема. Справа ў тым, што яшчэ 4 гады назад, летам 2013 года тагачасны глава ўрада М. Мясніковіч упершыню афіцыйна называў такую лічбу людзей, застаўшыхся без працы. Яшчэ праз год ужо А. Лукашэнка казаў пра паўмільёна незанятых у эканоміцы і загадваў прыцягнуць іх "именем революции в работу". Пасля гэтага пачалася вядомая эпапея па барацьбе з "дармаедамі", аднак на справе збор на фінансаванне дзяржрасходаў уплацілі толькі 54 тысячы чалавек з тых, хто апынуўся ў няпростай жыццёвай сітуацыі.

На месцах імкнуцца нешта рабіць, ствараць новыя рабочыя месцы, што дало падставу цяперашняму прэм'ер-міністру А. Кабякову на той нарадзе далажыць, што такім чынам працаўладкавалі 50 тысяч беларусаў сёлета. Прэзідэнт аднак выказаў сумненне, што расце колькасць занятых, бо паведаміў, што колькасць звольненых перавысіла паказчык прынятых на работу на 43 тысячы – гэта два сярэдніх раёны Беларусі. Вядомы эканаміст Я. Раманчук называе іншую лічбу: 700-800 тысяч суайчыннікаў з'яўляюцца лішнімі для эканомікі.

На працягу апошніх 20 гадоў у Беларусі ўсё адкладвалі парвядзенне структурных рынкавых рэформ. Праўда, напрыканцы восені А. Лукашэнка падпісаў Дэкрэт "Аб развіцці прадпрымальніцтва". Галоўнае, што нарэшце ўвялі ўведамляльны прынцып, нават па электроннай пошце можна будзе паведаміць у мясцовыя выканкамы, што канкрэтны грамадзянін з наступнага дня пачне займацца дзейнасцю па аказанні сацыяльных, бытавых, турыстычных паслуг. Дагэтуль столькі неабходна было ўзгадненняў па пажарнай бяспецы і па санітарна-эпідэміялагічным нормам, рэжыме працы такіх аб'ектаў, іх асартыменце. Цяпер пакінулі норму толькі аб узгадненні часу працы прыватных кафэ, бараў і рэстаранаў у начны час. Для іх кіраўнікоў увялі адміністрацыйную адказнасць за нармальную дзейнасць устаноў. З іншага боку кіраўніцтва краіны прыпыніла перамовы з МВФ і адмовілася выконваць яго рэкамендацыі праводзіць далей глыбокія рэформы і рэфарміраваць дзяржсектар. Таксама і Сусветны банк, ЕБРР і нават эксперты ЕАЭС лічаць, што перспектывы ўстойлівага росту беларускай эканомікі залежаць ад таго, ці рашымся мы на наспеўшыя структурныя рэформы.

Іншая справа, што яшчэ 2-3 наступныя гады Беларусь можа трымацца на ранейшым патэнцыяле, але нізкі эканамічны рост ВУП да 2 % у год прывядзе беларусаў да далейшага адставання па ўзроўні жыцця нават ад бліжэйшых суседзяў. Ад такой перспектывы ўжо пачынаюць збягаць самыя энергічныя і разумныя беларусы, яны сталі выязджаць за мяжу, там знаходзяць больш высокааплатную, чым 300-400 долараў у месяц, работу. А нашы ўлады пакуль на 2018 год паставілі задачу пераадолець адставанне і выйсці на параметры развіцця зацверджанай раней пяцігодкі, што без рэформ у дзяржсектары наўрад ці магчыма.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 07.12.17 | | | | Пятніца 08.12.17 | | | | Субота 09.12.17 | | | | Нядзеля 10.12.17 | | | | Пн.11. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -2 | 0 | 0 | +1 | 0 | 0 | 0 | +1 | +1 | +1 | +1 | 0 | 0 | 0 | 0 | -2 |
| Ціск | 743 | 745 | 744 | 742 | 740 | 738 | 738 | 738 | 738 | 739 | 740 | 740 | 739 | 739 | 738 | 734 | 735 |
| Вецер м/сек | 5 З | 2 З | 3 Пд | 5 Пд | 5 Пд-З | 6 Пд-З | 5 Пд-З | 5 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 4 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 9 Пд-З |
| Вільготнасць | 94 | 97 | 92 | 96 | 94 | 92 | 94 | 95 | 93 | 96 | 95 | 95 | 92 | 93 | 96 | 96 | 94 |

## Дзень за днём

**Курс долара ў Беларусі пераадолеў 2 рублі. А. Лукашэнка вырашыў паспрабаваць выратаваць айчынны АПК і адмовіўся ад удзелу ў саміце ЕС. Рост цэн на нафту павялічыць даходы дзяржбюджэту. З 10 снежня па 8 студзеня пройдзе вылучэнне ў дэпутаты мясцовых Саветаў. Л. Ярмошына прапанавала скараціць 13 тысяч дэпутатаў сельсаветаў.**

**Беларусь знізіла пастаўкі прадуктаў харчавання ў РФ. Дзяржстандарт Беларусі забараніў увоз і продаж расійскай згушчонкі. Выбары прэзідэнта і парламента ў 2020 годзе не будуць праходзіць адначасова. На беларускую мову пераклалі і выдалі Біблію. Беларусь заключыла з РФ пагадненне аб супрацоўніцтве ў спорце.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Глава разведкі Бруна Каль папярэдзіў, што пры Пуціне сілавыя амбіцыі Расіі будуць расці, яна нясе патэнцыйную пагрозу, спрабуе ўбіць клін паміж ЕС і ЗША.

**Іспанія.** У парламенце пачала працу камісія па мадэрнізацыі дзяржаўнага ладу краіны, па пераглядзе асноўных правоў і паўнамоцтваў 17 рэгіянальных аўтаномій.

**Украіна.** "Другім нажом у спіну краіны" назвала першы віцэ-спікер парламента Ірына Герашчанка, галасаванне Беларусі ў ААН па рэзалюцыі з правамі чалавека ў Крыме.

**Бельгія.** Эксперты адзначылі, што адным з фактараў адмовы А. Лукашэнкі ехаць на саміт у Брусель стала магчымая негатыўная рэакцыя Расіі і нізкі ўзровень адносін Беларусь-ЕС.

**Германія.** Напружаныя перамовы аб стварэнні новай правячай кааліцыі ўрада А. Меркель нечакана праваліліся з-за рознагалоссяў па міграцыйнай палітыцы, краіна і ЕС у шоку.

**Каталонія.** Апытанні за месяц да датэрміновых выбараў не далі адказу, ці пераможуць на іх прыхільнікі незалежнасці краю, альбо грамадзяне, якія выступаюць за адзінства Іспаніі.

**Сірыя.** Праз 2 гады ўступлення Расіі ў грамадзянскую вайну Б. Асад сустрэўся з Пуціным у Сочы, штодзень руская армія траціць там да 4 млн. долараў на баявыя дзеянні.

**Зімбабвэ.** Вялікую радасць у людзей выклікала бясслаўная адстаўка 93-гадовага прэзідэнта-дыктатара Р. Мугабэ, які правіў 38 гадоў і давёў краіну да заняпаду.

**Расія.** Расгідрамет прызнаў магутны выкід восенню радыяцыі паблізу Чалябінска на вытворчым аб'яднанні "Маяк", воблака ізатопаў фіксавалася і над Беларуссю, у ЕС.

**Украіна.** Міністэрства абароны абвергла заяву КДБ Беларусі, што затрыманы П. Шаройка працаваў на ўкраінскую разведку, гэты скандал выгадны Расіі, справакавала ФСБ РФ.

**Туркменістан.** З-за зніжэння даходаў дзяржбюджэту ў краіне абмежавалі продаж і абмен валюты да 250 долараў у суткі, выраслі цэны, павысілі ў 10 разоў плату за дзіцячыя сады.

**Украіна.** У выніку канфлікту са звольненым главой МУС главар баевікоў "ЛНР" Ігар Платніцкі ўцёк у Расію, у цэнтры Луганска з'явілася шмат узброеных людзей у форме.

**Германія.** Сусветны гігант, аўтаканцэрн Фольксваген інвестуе 10 млрд. еўра на вытворчасць электрамабіляў і гібрыдных аўто ў Кітаі, на выпуск 40 новых мадэляў.

**Францыя.** Позна вечарам у аэрапорце Ніццы паліцыя затрымала расійскага алігарха С. Керымава, яго раней аб'яўлялі ў міжнародны вышук улады Беларусі за "калійную вайну".

**Ш в е й ц а р ы я .** Міжнародная федэрацыя хакея пygрэзіла КХЛ санкцыямі, калі гэта руская ліга не адпусціць замежных ігракоў гуляць за іх зборныя на Алімпіядзе-2018.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Столін.** У гэтым райцэнтры, як прызнала глава Адміністрацыі прэзідэнта Н. Качанава, працы людзям няма, у абласцях краіны зараз каля 500 тысяч непрацуючых чалавек.

**Мінск.** Беларусь гатова адправіць адпаведны міратворчы кантынгент, як пацвердзіў глава МЗС У. Макей, на Данбас, калі гэта будзе прымальна для ўсіх зацікаўленых краін.

**Барысаў.** Генеральны пракурор Беларусі А. Канюк паведаміў, што ўзяў пад кантроль справу загінулага салдата ў Пячах, па ёй вядуць 15 крымінальных спраў і столькі ж фігурантаў.

**Астравец.** Набудаўнічую пляцоўку Беларускай АЭС даставілі першы камплект парагенератараў для другога энергаблока з транспартным шлюзам, усяго іх будзе 4.

**Рэчыца.** Гомельскі абласны суд пакараў 2 гадамі "хіміі" 41-гадовага ўраджэнца расійскага Ніжнявартаўска з беларускім грамадзянствам В. Мітрафанава за вайну на баку "ДНР".

**Мінск.** Абурэнне А. Лукашэнкі высокай зарплатай у банках, як папярэдзіў фінансавы эксперт В. Іасуб, можа прывесці да ўцёку банкіраў з Беларусі ці пераходу часткі іх даходаў у цень.

**Гомель.** Недапрацоўкай мясцовых улад назваў глава Мінсельгасхарча Беларусі Л. Заяц масавы выезд рабочых, студэнтаў і навучэнцаў на ўборку лёну на выхадныя ў лістападзе.

**Мінск.** Пасля гучнай заявы Генштаба Украіны, што не ўсе рускія войскі пакінулі Беларусь, на наступны дзень быў затрыманы нібыта "ўкраінскі шпіён" П. Шаройка.

**Магілёў.** Днём паспрабаваў абрабаваць банк 28-гадовы грамадзянін Расіі, ураджэнец Магадана, пры затрыманні ён адкрыў агонь, быў паранены ў нагу і затрыманы.

**Мінск.** Інтарэс грамадства і апазіцыі да мясцовых выбараў невялікі, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, бо мясцовая ўлада фактычна не з'яўляецца ўладай, няма самакіравання.

**Капыль.** Інвестары з Турцыі папрасілі 30 тысяч гектараў зямлі для забеспячэння дзейнасці сучаснай птушкафабрыкі і мясакамбіната ў Клецкім раёне, якія яны пабудуюць.

**Мінск.** Беларусам трэба ўсвядоміць, як заявіў экс-памочнік прэзідэнта Кірыл Руды, што ў іх не можа быць "старэйшага брата" і ніхто нам не дапаможа, акрамя саміх сябе.

**Петрыкаў.** Сям'я з трох чалавек з дзіцём загінула раніцай, калі ў сустрэчнага малакавоза выбухнула на дарозе кола і адбылося лабавое сутыкненне яго з іншамаркай.

**Ганцавічы.** Следчыя пачалі праверку, якім чынам 14-гадовая вясковая школьніца змагла зацяжарыць ад 24-гадовага фізрука, які збіраецца з ёй ажаніцца, але можа сесці ў турму.

**Гродна.** Зграя бяздомных здзічэлых сабак загрызла на ўскраіне горада ў прыватным сектары статак з 9 коз, людзі сталі баяцца агрэсіўных сабак, якіх цяжка стала адлавіць.

# «Каб сумяшчаць выхаванне дзяцей з прафесіяй». У Беларусі ўзаконяць працу дома



■ FINANCE.TUT.BY

**У Беларусі рыхтуюцца змены ў Працоўны кодэкс, якімі будуць замацаваны дыстанцыйныя формы працоўных адносін. Пра гэта паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак перад адкрыццём міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі маладых вучоных «Сацыяльна-працоўная сфера і дэмаграфічнае развіццё Рэспублікі Беларусь», перадае БЕЛТА.**

- Што тычыцца магчымасцяў для жанчыны сумяшчаць выхаванне дзяцей з прафесійнай дзейнасцю, то ў гэтым напрамку ў краіне многае робіцца. Напрыклад, рыхтуюцца змены ў Працоўны кодэкс, якімі будзе замацоўвацца дыстанцыйная праца. Зараз інфармацыйныя тэхналогіі дазваляюць чалавеку працаваць з хаты аддалена. Праект змен ужо ёсць, ён праходзіць неабходныя працэдуры, - сказаў Аляксандр Румак.

Намеснік прадстаўніка Фонду ААН у галіне народанасельніцтва (ЮНФПА) у Беларусі Алена Касько прывяла і іншыя прыклады палітыкі па стымуляванні нараджэння дзяцей, якія прымяняюцца ў іншых краінах: калі выкананы баланс паміж працай і сям'ёй (больш гнуткія графікі працы, скарочаны тэрмін дэкрэтнага адпачынку, які аплачваецца ў большым аб'ёме); уцягнутасць мужчын і іх дапамога жанчынам падчас цяжарнасці і ў першыя месяцы пасля нараджэння дзіцяці.

- У Беларусі ў бацькоў таксама ёсць магчымасці дэкрэтнага адпачынку, дадатковага кароткачасовага водпуску па жаданні, каб пабыць з жонкай і дзіцем, - дадаў Аляксандр Румак.

Яшчэ ў красавіку міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч анансавала падобныя змены ў Працоўны кодэкс. «Мы кажам пра тое, што XXI стагоддзе вылучае новыя формы занятасці. Пры гэтым першы крок, які павінен быць зроблены, - гэта ўдасканаленне заканадаўства ў сферы працы, - заявіла тады міністр. Паводле яе слоў, «у беларускае працоўнае заканадаўства рэгулярна ўносяцца змены з улікам тых патрабаванняў, якія вылучае час».

Ірына Касцевіч звярнула ўвагу, што сёння стандартнае працоўнае месца з 8-гадзінным працоўным днём часта мае варыянты - і па форме, і па змесце. Напрыклад, гэта можа быць дыстанцыйная праца. «Таму будуць унесены змяненні ў Працоўны кодэкс», - адзначыла міністр. Яна таксама дадала, што ў гэтым пытанні будзе сур'ёзна вывучацца сусветны вопыт.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Браслаў.** Нязначнае радыёактыўнае воблака з рутэніем-106, якое праляцела над райцэнтрам, як пацвердзіў Белгідраметэацэнтр, небяспекі для насельніцтва не прынесла.

**Полацк.** Віцебскі абласны суд пакараў раней судзімага 34-гадовага гараджаніна 12 гадамі турмы за распальванне рэлігійнай і сацыяльнай варожасці, прапаганду ісламізму.

**Глыбокае.** Пасля праведзенай рэканструкцыі мясцовы мясакамбінат стаў штотыдзень адгружаць у Расію па 10 і болей тон мясных паўфабрыкатаў у вакуумнай упакоўцы.

**Ушачы.** На буйнейшым свінакомплексе раёна "Сарочына" пасля ўспышкі эпідэміі АЧС у 2013 годзе і вымушанага прастою зноў аднавілі ранейшае пагалоўе звыш 16 тысяч свіней.

**Дуброўна.** Днём у райбальніцу з пераломам левай нагі даставілі 11-гадовага школьніка, траўму ён атрымаў у спартзале пасля падзення футбольных варот, пачалося следства.

**Віцебск.** З-за парушэння правілаў эксплуатацыі электрасетак вечарам пачаўся пажар у адным з інтэрнатаў горада, 132 жыхары эвакуіраваліся самі яшчэ да прыбыцця пажарных.

**Чашнікі.** Следчыя пачалі разбірацца, як падчас уборкі бульбы пасля абеду мог патрапіць у транспарцёр бульбаўборачнага камбайна і трагічна загінуць 35-гадовы механізатар.

**Наваполацк.** Падчас праверкі праяздных дакументаў п'яная 53-гадовая жанчына ўдарыла кулаком у твар кантралёра, калі той аштрафаваў яе сваяка, распачата крымінальная справа

**Віцебск.** Гарпракуратура распачала крымінальную справу супраць мужчыны, які з акна сваёй кватэры страляў па дзецях, адному куля патрапіла ў галаву, другому – у грудзі.

**Бягомль.** Маладая мама Кацярына Загуста з вопытам дзейнасці ў салонах прыгажосці Лепеля і Віцебска адкрыла ў гарпасёлку сваю парыкмахерскую "Манро".

**Наваполацк.** Каля аднаго з будынкаў Полацкага дзяржуніверсітэта па ініцыятыве рэктара Д. Лазоўскага ўстанавілі парабалоід вышынёй 2,5 метры, прысвечаны Году навукі.

**Мёры.** У СШ № 3 імя Я. Тамко райцэнтра прайшоў для настаўнікаў інфарматыкі школ раёна і кіраўнікоў тэхнічных гурткоў майстар-клас па адукацыйнай робататэхніцы.

**Віцебск.** Вечарам на 44-гадовага гараджаніна ў пад'ездзе дома напаў рабаўнік і паспрабаваў адабраць грошы, міліцыя знайшла і затрымала раней судзімага злачынцу.

**Баравуха.** За перамогу ў конкурсе "Настаўнік года" выкладчыцы СШ № 15 С. Румянцавай падаравалі новы аўтамабіль, а школе – камп'ютарны клас і інтэрактыўны мульцiборд.

**Паставы.** Адразу 3 іншамаркі, прыпаркаваныя каля шматпавярховак, узламалі ноччу двое маладых гараджан, забралі АКБ, аўтамагнітолу і ФМ-мадулятар, злодзеяў затрымалі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# Пралятаючы над Бегляцом – робім экстрымальнае сэлфі!

**Аўтар гэтых радкоў напісаў прапанову кіраўніку раёна Алегу Віктаравічу Морхату “Аб добраўпарарадкаванні возера Бяглец, месца масавага адпачынку глыбачан”.**

Сэнс прапановы заключаўся ў наступным.

1. **Плошчу воднага люстра возера Бяглец можна павялічыць удвая.** Для гэтага ва ўсходняй частцы, на забалочанай тэрыторыі за возерам Бяглец (гл. схемы), землярыйнай тэхнікай трэба правесці выемку грунта. Гэтая забалочаная частка былога вялікага возера, у Ледавіковы перыяд, засыпаная пяском ад прамыву ручаём глыбокага яра. Сам ручай выцякае з маленькага возера Пусцянец і ўпадае ў Бяглец. Побач – яшчэ адзін сухі яр. Намывам грунта (пяска) з двух яроў – засыпаная ці не палова возера Бяглец.

2. **Грунт ад выемкі можна скарыстаць на адсыпку гарналыжнага спуска.** Гарналыжны спуск можа пачынацца ад дарогі на Чачалі і выходзіць далей на цяперашні пляж.

3. **Выдатная магчымасць усталяваць тралейную трасу!**

Возера Бяглец ляжыць ва ўпадзіне, а над ім узвышаюцца пагоркі. Ад адной высокай кропкі – праз возера – да другой высокай – метраў 400.

**Дзе ўзяць грошы?** Папрасіць у Еўрасаюза грант! І даюць жа! Як прыклад – на вул. Вольнай, ля ракі Беразвіцы, стаіць банер з пазнакай – "гэтая набярэжная зробленая коштам Еўрасаюза". А тралей наогул можа быць і інвестыцыйным праектам! Бо падобныя атракцыёны, звычайна, платныя. То бок такі праект можа быць самаакупным.

Хто не ведае, што такое тралей, раю зайсці на *Youtube.com* і паглядзець кароткія відэаролікі, накшталт: **“Троллей через Днепр. Украина. Киев”,** альбо **“Киев. Троллей”.**

Я разумею, нават уяўляю, што нехта, чытаючы гэтыя радкі, усміхаецца, маўляў “параўнаў аўтар артыкула хрэн з пальцам”, то бок Глыбокае з Кіевам! Там – сталіца і 3 мільёны насельніцтва, а тут – захудалы райцэнтар з 19 тысячамі насельніцтва.

Ага! А цяпер, паглядзіце на *Youtube.com* такі відэаролік – **“Самый длинный троллей в Беларуси г. Поставы, база отдыха Озерки”.** Так, так! Тралей ёсць не толькі ў Кіеве, і не толькі ў Сігулдзе пад Рыгай, а нават і ў Паставах!

Нічога не скажу пра Паставы кепскага. Харошы гарадок! Але гэты "харошы гарадок" абстаўляе Глыбокае па поўнай праграме! Як малых дзетак! У іх – басейн, СкайПарк з тралеем і вяровачным гарадком. Хутка там узвядуць гіпермаркет – гандлёва-забаўляльны цэнтр, які можна будзе параўнаць толькі з аналагічнымі аб’ектамі ў Полацку і Маладзечне. Басейн ёсць і ў Докшыцах! А самы круты басейн, кажуць, ва Ушачах, які заторкне і докшыцкі, і пастаўскі! Але ў нас няма ніякага!

Я паглядзеў відэаролік пра тралей у Паставах. Слабаваты! Пралёт на тралеі – не праз усё возера, а толькі па ўскрайку і над трыснягамі, вышыня над вадой усяго – 3-5 м. Ніякага экстрыму! У нас, над Бегляцом, тралей можна зрабіць шматкроць круцейшы! Высокае ўзвышша над возерам! Пралёт над вадой – сама меней метраў 20, а то і вышэй! Во, дзеўкі будуць вішчаць! А ў дадатак – з вышыні птушынага палёту – цудоўная панарама на Глыбокае!

**Што будзем мець у выніку?**

**1.** Ад павелічэння плошчы возера выйграе экалогія. Больш аб'ём вады – больш здольны да самаачышчэння. Больш аб'ём вады – больш рыбы! На большым возеры можа быць і пракат водных ровараў і лодак. Магчымасць пераносу пляжу ў іншае месца, дзе дно будзе зроблена з паступовым паглыбленнем, а не так рэзка, як на сёння існуючым пляжы.

**2.** Глыбокае не можа разлічваць на міжнародны турызм, а толькі на ўнутраны. Цяпер вельмі папулярнай становіцца экскурсія выхаднога дня. Селі чалавек пяць мінчукоў (берасцейцаў, ці гарадзенцаў) у аўта, і – куды едзем? А паехалі ў Глыбокае! Людзі, перадусім моладзь, Глыбокае наведваюць, аб чым сведчаць відэаролікі, якія выкладзеныя ў інтэрнэт. А гэта таксама рэклама нашаму гораду!

Не забываем і пра тое, што з пятніцы па нядзелю, туды і зваротна з Мінска, едзе процьма машын на браслаўскія дачы. Гіпатэтычна і гэтыя вандроўнікі могуць стаць наведвальнікамі забаўляльных аб'ектаў Глыбокага.

**3.** Калі ў нас будзе зробленая стаўка толькі на адзін Вішнёвы фестываль, то гэта станецца ўсяго падзейнай з'явай года. І не больш! Глыбачане захочуць яшчэ і адпачынку, згадаць пра цёплае лета, і паедуць у докшыцкі ўтульны басейн, а то і ў пастаўскі. А ў Паставах яшчэ будзе і гандлёва-забаўляльны цэнтар! То бок глыбачане будуць фінансава падтрымліваць суседзяў, ствараць у іх рабочыя месцы. Ну, лясне тады і ўвесь астатні глыбоцкі гандаль.



Тралей. Ілюстрацыйнае фота.

А могуць жа прыязджаць да нас не толькі паглядзець царкву і касцёл, а застацца на суткі, заначаваць у гатэлі, схадзіць у басейн, пракаціцца на тралеі ці спусціцца на горных лыжах з меркаванай гарналыжнай трасы. А ў рэстаранчыку адведаць глыбоцкіх клёцак, набыць з сабой глыбоцкі хлеб, спечаны ў печы на аеравых лісцях...

Чытачоў, напэўна, цікавіць, што адказаў аўтару Алег Віктаравіч Морхат? Прывяду кароткую цытату, апускаючы тое, што ўжо зроблена (выратавальны пост, распранальні, аўтастаянка, кавярня…), а толькі тое, што плануецца зрабіць у перспектыве:

" ... Кожны год праводзіцца азеляненне прылягаючай тэрыторыі. На тэрасах з усходняга боку ад возера вядзецца пасадка ў асноўным саджанцаў сасны, а таксама іншых дрэў хваёвых парод. Далей, у накірунку вёскі Чачалі вядзецца засыпка нізкіх мясцін грунтам, каб потым усю гэтую тэррыторыю засадзіць рознымі пародамі дрэў іператварыць у будучым у паркавую зону.

На прылягаючай тэрыторыі з заходняга і паўднёвага боку ўздоўж возера маецца намер у будучым годзе пабудаваць пешы маршрут “Сцяжынка здароўя” з устройствам розных прылад для фізічнай актыўнасці, а таксама прадаўжаць азеляняць прылягаючыя тэрыторыі.

Пры далейшым добраўпарадкаванні тэрыторыі возера Бяглец **райвыканкам будзе ўлічваць побач з іншымі і Вашы прапановы па размяшчэнні дадатковых атракцыёнаў для забавы і адпачынку глыбачан і гасцей горада ...".**

Адказ кіраўніка раёна аўтара допісу задаволіў!

**На схеме (злева)** выкарыстаны здымак возера Бяглец з космасу. Балотная тэрыторыя падзеленая на сектары "А" і "В", адзначаныя аб'екты: 1) кавярня "Сытая гавань", 2) крыніца 3) пляж 4) шаша і аўтастаянка 5) сухі востраў 6) ручай з возера Пусцянец, яр.

**На правай схеме** – меркаванае возера Бяглец пасля выемкі грунта з балотных тэрыторый. А таксама адзначаныя меркаваныя забаўляльныя аб'екты – гарналыжны спуск і тралей – якія можна было б тут змясціць.







# Пасля ўводу БелАЭС новабудоўлі перавядуць на электрычнасць, газавая пліта стане рэдкасцю

З 2018 года новабудоўлі з газавымі плітамі стануць рэдкасцю, а для вайскоўцаў будуць больш актыўна будаваць арэнднае жыллё. Усё гэта закладзена ў пастанове ўрада, уносіць змены ў праграму «Будаўніцтва жылля» на 2016-2020 гады. Пастанова апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, піша Tut.by.

Угэтай пяцігодцы ў Беларусі запланаваны ўвод у эксплуатацыю Беларускай атамнай электрастанцыі і павелічэнне выпрацоўкі электрычнай энергіі. З улікам гэтых перспектыў новабудоўлі будуць праектавацца з электрычным «начыннем» - ацяпленнем, падагрэвам вады, электраплітамі ў кухнях кватэр. Адначасова павінна развівацца інфраструктура па забеспячэнні электраэнергіяй новага жылля.

Выключэнне складуць дамы, якія будуюцца ў зоне дзеяння цеплавых электрастанцый, а таксама ў газіфікаваных раёнах, дзе ёсць рэзервы магутнасці.

***Паводле Tut.by.***

**Каментар "ВГ".** Польшча і Літва, як ужо паведамлялі СМІ, адмовіліся набываць электрычнасць ад БелАЭС. Літоўцы, наогул абураныя фактам, што БелАЭС узводзіцца па расійскім праекце і на мяжы з Літвой, за пару дзясяткаў кіламетраў ад Вільні. У гэтым выпадку БелАЭС будзе прадукаваць лішак электраэнергіі, які кудысьці трэба будзе задзейнічаць. У дадатак трэба будзе сплачваць крэдыты расійскаму боку, якія выдаткаваныя на будаўніцтва БелАЭС. Можа так стацца, што не толькі новапабудаваныя дамы абсталююць электрычным ацяпленнем, электраплітамі, але і з цягам часу і ўсім цяперашнім уладальнікам газавага ацяплення і газавых плітаў прыйдзецца пераходзіць на электрычнасць.

# Каменьчыкі пад чорным помнікам



**Франц Хоміч,**
*краязнаўца, м. Дунілавічы*

**Заканчэнне.**
*Пачатак у № 47 (920) за 23.11, №48 (921) за 30.11. 2017 года.*

## Крывавая нядзеля

**Вясна 1941 года выдалася неспрыяльнай: познія замаразкі пашкодзілі пладовыя дрэвы падчас цвіцення. Але ніхто не чакаў непрыемнасцяў значна больш сур'ёзных.**

Даведаўшыся пра пачатак вайны, людзі ў мястэчку захваляваліся, але ніхто не ўцякаў: усе верылі ў моц Чырвонай Арміі. Толькі савецкія ўстановы сталі пакавацца і выязджаць. У напрамку Глыбокага рухаліся вялікія калоны бежанцаў з захаду, бясконцыя павозкі, да якіх была прывязана хатняя жывёла. Гэтыя калоны пастаянна бамбілі фашысты.

Некаторыя з мясцовых сялян, што прадбачылі неразбярыху і магчымыя ўцёкі яўрэяў, пазбіраліся ў мястэчку з надзеяй пажывіцца. А яўрэі сядзелі па хатах і чакалі свайго лёсу. Асобныя з іх паспрабавалі з'ехаць, але, абцяжараныя вялікімі сем'ямі, вярнуліся назад.

Калі прыйшлі першыя атрады немцаў, адбылася вялікая гарматная перастрэлка з савецкімі войскамі, што паасобку адступалі. Ішоў 13-ты дзень вайны.

Немцы адразу ж сталі варожа адносіцца да яўрэяў. Іх мабілізавалі на рамонт дарог, разбураных цяжкай тэхнікай, яны на плячах цягалі з лесу бярвенне і ўкладвалі яго на дарогу.

Хутка з'явіліся загады, асноўнымі словамі ў якіх было «забараняецца». А «нельга» было амаль усё: наведваць школу і бальніцу, адыходзіць больш чым на тры кіламетры ад мястэчка, з'яўляцца на вуліцы пасля пяці гадзін вечара, хадзіць па тратуарах, прымацца ў доме чужога і інш.

Правялі перапіс яўрэйскага насельніцтва. Усе дарослыя павінны былі прыходзіць на работу. Кожны яўрэй на спіне і на грудзях насіў жоўтую метку з літарай «J».

Надзвычай жорстка абыходзілася з яўрэямі паліцыя. Праходзілі пастаянныя збіццё і расстрэлы па любых прычынах, вельмі часта надуманых. Месцамі здзекаў часта станавіліся возера і рака. Раніцай і вечарам людзей заганялі па горла ў халодную ваду і прымушалі паўзком выбірацца на бераг. Быў выпадак, калі ў восеньскую халадэчу змусілі праполваць дно возера да апошняй расліны. Забівалі за дапамогу аслабелым падчас работы, за тое, што ўзяў ежу ў мясцовых жыхароў, а іншы раз і проста так.



**Натоўп яўрэяў, якіх накіроўваюць на прымусовыя работы, перад будынкам Дунілавіцкай валасці. Ліпень 1941 года. Фотаздымак набыты за 26 еўра на ахвяраванні грамадскасці на аўкцыёне Ebay і прывезены ў Беларусь.**

Была створана яўрэйская паліцыя — юдэнрат; яна несла адказнасць за дзеянні членаў абшчыны.

Аб'явілі пра стварэнне гета: сабрацца за 24 гадзіны, мець з сабой не больш чым 25 кілаграмаў маёмасці. Мэбля, каштоўныя рэчы, дамашняя жывёла былі канфіскаваны.

Быў абгароджаны невялікі ўчастак мястэчка (гл. план). Для ўваходу-выхаду — адзіныя вароты, побач з якімі знаходзіўся штаб юдэнерата, а насупраць размяшчаўся ваенны камендант Гік. На гэтым «пятачку» месціліся каля тысячы чалавек, цесната неймаверная. Лічыцца, што першапачаткова ў гета трапілі 903 чалавекі. Гэта былі яўрэйскія сем'і мястэчкаў Дунілавічы, Ваўкалаты і некаторых іншых. Так, крыху пазней далучыліся яўрэі-ўцекачы з Шаркоўшчыны. Дзіўна тое, што многія да апошняга верылі ў гуманнасць фашыстаў. Хоць частка вязняў рыхтавала сховы на тэрыторыі гета. Капалі схроны, абсталёўвалі патайныя месцы на гарышчах. І мелі рацыю.



**Адзін з 4-х захаваўшыхся будынкаў на тэрыторыі гета.**

Уноч на 22 лістапада 1942 года ў гета ўзнікла паніка, зняволеныя зразумелі, што яны акружаны. Тых, хто набліжаўся да агароджы і спрабаваў уцякаць, тут жа забівалі. Усе кінуліся да загадзя падрыхтаваных сховаў. Паніка была такая, што некаторыя памерлі з перапуду.

Звернемся да дакумента — Акта Надзвычайнай Дзяржаўнай камісіі па расследаванні злачынстваў, учыненых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Дунілавіцкім і Пастаўскім раёнах ад 10 красавіка 1945 года. «У лістападзе 1942 года пачаўся масавы расстрэл яўрэяў. Спецыяльны атрад з 35 немцаў, што прыехалі з Глыбокага, за тры дні закатаваў і расстраляў 828 чалавек, з якіх было 300 ні ў чым не вінаватых дзяцей. Ноччу 21 лістапада 1942 года на 4 машынах да гета пад'ехалі 35 немцаў і, паставіўшы кулямёты, пачалі абстрэльваць жылыя дамы. Калі развіднелася, усіх жыхароў гета, хто застаўся ў жывых, пачалі заганяць у хлеў, там іх распраналі і ў адной ніжняй бялізне выганялі на вуліцу па 3-4 чалавекі, дзе яны расстрэльваліся з аўтаматаў п'янымі немцамі».

Многія кінуліся ратавацца праз рана замерзлае ў тым годзе возера, але яно прастрэльвалася з трох бакоў, і дабеглі нямногія: недзе адзін з трох уцекачоў. Па маіх падліках, пашанцавала 57 чалавекам. Большасць бегла да бліжэйшага лесу, а потым кожны вырашаў свой лёс сам. Частка ўцекачоў схавалася ў навакольных вёсках і хутарах, частка падалася на пошукі партызан. Рызыкуючы жыццём, хавалі яўрэяў некаторыя мясцовыя сем'і. Найбольш вядомай з'яўляецца сям'я Зямчонкаў з вёскі Гараваткі, якая выратавала яўрэйскую сям'ю Гардона. Былі таксама такія сем'і ў Заржжы, Дзенькаўшчыне, бліжэйшых хутарах.

Гета ліквідавалі поўнасцю. Людзі забітыя, дамы разбураныя і спаленыя. Трупы пахаваныя ў брацкай магіле. Вывозілі памерлых на конных павозках мясцовыя жыхары. Колькі загінула, падлічыць цяжка. Як вынікае з дакумента, пры ліквідацыі гета загінулі 828 чалавек. Але яўрэяў забівалі і да гэтага, значыць, агульны лік ахвяраў значна большы.

Упасляваенны час на брацкай магіле па ініцыятыве і на сродкі Рудэрмана быў устаноўлены помнік. Гэта адзіны жыхар-яўрэй, які застаўся пасля вайны ў Дунілавічах. Вярнуўшыся з фронту, некалькі гадоў працаваў старшынёй раённага спажывецкага таварыства, а потым выехаў у Польшу і далей у ЗША.

*«Нельга ўсё жыццё жыць мінулым, немагчыма ўсё жыццё пражыць на могілках»,* — сказаў ён перад ад'ездам.

Нядаўна пахаванне атрымала новы абеліск і надмагільны помнік. Каля абеліска часта можна ўбачыць жывыя кветкі і, згодна з яўрэйскім звычаем, дробныя каменьчыкі.

Ніводнага члена яўрэйскай абшчыны ў мястэчку не засталося, як і самога яўрэйскага мястэчка… Цяпер гэта аграгарадок Дунілавічы, былое мястэчка і вёска.

Некалькі гадоў таму, наведваючы пахаванне, побач заўважыў незвычайны грыб-пухаўку. Па форме ён вельмі нагадваў чалавечы чэрап, на патыліцы – адтуліна, падобная кулявой. Выпадковасць ці не?

## Схема яўрэйскага гета ў Дунілавічах









**Грыб-пухаўка, які знойдзены аўтарам на месцы пахавання яўрэяў, ахвяраў гэта. Выпадковасць ці не? З аднаго боку ён нагадвае чэрап чалавека з вачніцамі, з іншага – нібы адтуліна ад кулі ў патыліцы.**



**Помнік на месцы пахаванняў ахвяраў гэта, які пастаўлены ў 2008 г.**

■ Е. Нікіціна,
памочнік урача- эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ.

# У Глыбоцкім раёне з 1987 года зарэгістравана 10 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі

**1 снежня – Сусветны дзень прафілактыкі СНІД, які праводзіцца з 1988 года па прапанове Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Мільёны людзей прымаюць удзел у акцыях, мітынгах і іншых мерапрыемствах, падкрэсліваючы свой удзел у праблемах, звязаных з ВІЧ/СНІД.**

Кампанія 2017 года праходзіць пад дэвізам «Маё здароўе, маё права». Кампанія прысвечана праву на здароўе і тым цяжкасцям, з якімі сутыкаюцца людзі, закранутыя праблемай ВІЧ/Сніду ў розных краінах свету, і закліканая нагадаць людзям пра тое, што іх права на здароўе — гэта нешта большае, чым проста доступ да якасных медыцынскіх паслуг і лекавых прэпаратаў.

Згодна з глабальнай статыстыкай Аб'яднанай праграмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па ВІЧ/СНІДу (ЮНЭЙДС), на планеце жыве больш за 36 мільёнаў чалавек, інфіцыраваных ВІЧ.

За гады працідзеяння эпідэміі ў свеце дасягнуты значныя вынікі: колькасць людзей, штогод, якія заражаюцца ВІЧ, за апошнія 15 гадоў скарацілася з 3,1 мільёнаў да 2,0 мільёнаў; колькасць новых выпадкаў заражэння вірусам ВІЧ сярод дзяцей, народжаных ВІЧ-станоўчымі жанчынамі, скарацілася на 56%.

Па стане на 01.10.2017 года ў Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 24 164 выпадкі ВІЧ-інфекцыі, у тым ліку 1 946 ВІЧ-інфіцыраваных выяўлена за 10 месяцаў 2017 года. У краіне пераважае палавы шлях перадачы ВІЧ-інфекцыі, на долю якога прыпадае 77,1% ці 1 500 новых выпадкаў, зарэгістраваных у краіне ў бягучым годзе.

Часцей за ўсё выпадкі ВІЧ-інфекцыі выяўляюцца ва ўзроставай групе 40 гадоў і старэй – 35,5%, другой па значнасці з'яўляецца ўзроставая група 35-39 гадоў – 22,6%. Агульная колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі ва ўзроставай групе 15-49 гадоў складае 22 413 чалавек (удзельная вага ў агульнай структуры ВІЧ-інфіцыраваных – 92,8%). За 10 месяцаў 2017г. у ўзроставай групе 15-49 гадоў зарэгістравана 1 714 выпадкаў (88,1%). За аналагічны перыяд 2016 г. – 1 737 выпадкаў (87,8%).

На стане на 1 лістапада 2017 года ў Віцебскай вобласці зарэгістравана 1 289 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 1 018, паказчык распаўсюджанасці склаў 85,7 на 100 тыс. насельніцтва (на 01.11.2016 – адпаведна 1 177 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, паказчык распаўсюджанасці – 78,7).

За студзень-кастрычнік 2017 года выяўлена 93 новых выпадкі ВІЧ-інфекцыі (за аналагічны перыяд 2016 года – 1000). Паказчык захворвання на 01.11.2017 склаў – 7,8 на 100 тыс. насельніцтва (на 01.11.2016 – 8,4).

**У Глыбоцкім раёне** зарэгістравана (з 1987 года) 10 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. Шлях распаўсюджвання выяўленых выпадкаў ВІЧ-інфекцыі на тэрыторыі раёна – палавы (100% выпадкаў).

**ШТО Ж ТАКОЕ ВІЧ/СНІД?**

ВІЧ (Вірус Імунадэфіцыту Чалавека)

- вірус, які перадаецца ад чалавека да чалавека і выклікае разбурэнне імуннай сістэмы арганізма. ВІЧ-інфекцыя,

- захворванне, якое ўзнікае пры пранікненні ў арганізм чалавека віруса імунадэфіцыту.

СНІД (сіндром набытага імунадэфіцыту) выклікаецца спецыфічным вірусам. Гэты вірус трапляе ў кроў і пашкоджвае пэўны тып белых крывяных шарыкаў (лімфацытаў), якія з'яўляюцца важным звяном абароннай (імуннай) сістэмы арганізма. У выніку заражэння чалавек становіцца «безабаронным» перад мікробамі і пухлінамі. Захворванне развіваецца павольна, на працягу некалькіх гадоў адзінай прыкметай хваробы можа быць павелічэнне лімфатычных вузлоў. Затым пачынаюцца ўздым тэмпературы, працяглыя расстройствы кішэчніка, патлівасць, пахуданне. У далейшым ўзнікаюць запаленне лёгкіх, гнойнічкавыя і герпетычныя паражэнні скуры, сэпсіс (заражэнне крыві), злаякасныя пухліны, пераважна скуры. Усё гэта прыводзіць да смерці хворага.

**Заразіцца СНІДам у наш час вельмі проста.** Гэта можа адбыцца :

- пры палавым акце з хворымі або заражанымі вірусам СНІДу. Выкарыстанне прэзерватываў зніжае рызыку заражэння;

- у выніку выкарыстання для ін'екцый нестэрыльных шпрыцаў, у асноўным, наркаманамі;

- шляхам увядзення крыві або яе прэпаратаў, якія ўтрымліваюць вірус. Напрыклад, пры пераліванні крыві ад заражанага чалавека. У Рэспубліцы Беларусь існуе сістэма праверкі донарскай крыві, якая выключае гэты шлях перадачы;

- ад цяжарнай жанчыны, заражанай ВІЧ, нованароджанаму;

- праз неабеззаражаныя прылады для галення, манікюру, пры нанясенні татуіровкі, праколванні вушэй і г. д.;

- у побыце праз нажніцы, зубныя шчоткі і інш.



**Вірус СНІДу не перадаецца:**

- пры агульнапрынятых формах прывітання (поціску рукі, сяброўскіх пацалунках);

- праз посуд, бялізну, вопратку;

- пры кашлі і чханні;

- пры наведванні басейна, сауны;

- пры ўкусах насякомых і жывёл;

- пры купанні ў вадаёмах;

- пры карыстанні агульным туалетам;

Асаблівая небяспека СНІДу ў тым, што чалавек можа доўгія гады не адчуваць яго прысутнасць, і таму жыць звычайным жыццём, а, такім чынам і заражаць іншых. Наркаманія, бязладныя палавыя сувязі, выкарыстанне брудных шпрыцаў – найбольш верагодныя шляхі заражэння. У цяперашні час вакцыны ад ВІЧ-інфекцыі не існуе, як няма і лекаў, якія цалкам вылечваюць ад яе.

Для таго, каб не дапусціць інфіцыравання ВІЧ, трэба толькі памятаць некалькі простых рэкамендацый:

– устрымлівайцеся ад сэксуальных стасункаў да шлюбу;

– не дапускайце выпадковых і бязладных палавых сувязяў. Захоўвайце вернасць партнёру!

– заўсёды карыстайцеся індывідуальнымі прадметамі асабістай гігіены (брытвы, манікюрныя прыналежнасці, зубныя шчоткі);

– адмоўцеся ад ужывання наркатычных сродкаў.

**Здаровы лад жыцця – аснова прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі!**

# На беразе ляжалі не толькі карасікі і сеткі, але і самі браканьеры – тварам да зямлі

■ Аляксей Протас,
начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі шмат пішуць аб розных фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, прыводзяць прыклады затрымання парушальнікаў, сумы штрафаў, шкоды за прычыненую прыродзе шкоду. За кожным з выяўленых парушэнняў стаіць чалавек, які далёка не заўсёды наўмысна ідзе на парушэнне закона, а проста з-за яго не ведання, з-за ўласнай ляноты, лішні раз пачытаць заканадаўства, правілы палявання або рыбалоўства, атрымаць тлумачэнні ў спецыялістаў.

Так, **25 лістапада** 2017 года інспектарамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрыманы жыхар г. Глыбокае грамадзянін К., які ажыццяўляў паляванне на водаплаўную дзічыну, здавалася б, і што тут такога, усе дакументы ў паляўнічага былі ў наяўнасці, толькі вось паляваў ён не з тымі патронамі, што неабходныя для стральбы па качак, а з кулявымі патронамі, пры руху па дарозе агульнага карыстання зброя была расчахлёная і гатовая да выкарыстання. Складзены адміністрацыйны пратакол за незаконнае паляванне, які накіраваны ў раённы суд, парушальніка чакае штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, пазбаўленне права палявання і магчымая канфіскацыя зброі.

**26 лістапада** 2017 года супрацоўнікам міжрайінспекцыі ад неабыякавых грамадзян паступіла паведамленне аб тым, што на штучнай сажалцы Сяменчыкі, паблізу аднайменнай вёскі Глыбоцкага раёна гаспадараць браканьеры. Інспектары адрэагавалі аператыўна, і ўжо каля 17 гадзін вечара паблізу сажалкі, на зямлі ляжалі не толькі мяшкі з сеткамі і рыбай, але і два жыхары Мёрскага раёна, якія ажыццяўлялі незаконную лоўлю рыбы і разлічвалі, што ў глыбінцы яны могуць спакойна рабіць сваю «цёмную справу». Улоў браканьераў склаў 50 асобін карася срэбнага, амаль 20 кг. рыбы, але вельмі дорага абыдуцца ім карасікі. Толькі сума нанесенай шкоды прыродзе склала больш за 500 рублёў, а яшчэ раённы суд вынесе пакаранне ў выглядзе штрафу ад 460 да 1 150 рублёў.



Супрацоўнікі міжрайінспекцыі выказваюць велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Вы можаце патэлефанаваць на нумар «тэлефону даверу»: 8-02156-55980 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 мтс.

## МНС інфармуе
**на 05.12.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 633;
Гібель людзей – 77, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 36;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

